# Мова -- не палітычны палігон

**Два гады мінула з таго дня, як быў прыняты закон аб мовах, пачала ажыццяўляцца дзяржаўная праграма развіцця не толькі беларускай, але і іншых моў нацыянальных супольнасцей у Рэспубліцы Беларусь. І хочацца паразважаць зараз аб развіцці польскай мовы на Гродзеншчыне, аб тым, што зроблена аддзеламі адукацыі за гэты час і што засталося.**

Азіраючыся назад, трэба адзначыць, што адраджэнне мовы, культуры, традыцый польскага супольніцтва пачалося ў нас значна раней за прыняцце закона аб мовах, яшчэ ў 1987—1988 навучальным годзе, калі з'явіліся першыя гурткі і факультатывы польскай мовы. Але з кожным годам узрастаў інтарэс да яе як да прадмета. Для параўнання: у 1989/90 навучальным годзе польскай мовай займаліся 6524 вучні, з іх 654 вывучалі яе як прадмет, а ў 1992/93 навучальным годзе колькасць вучняў узрасла да 9809, было адкрыта 239 класаў, дзе 2880 вучняў вывучаюць польскую мову як прадмет.

Трэба дадаць, што ў 1991/92 у дзвюх школах Гродна былі адкрыты два першыя класы, дзе школьнікі пачалі вывучаць усе прадметы на польскай мове. А ў гэтым навучальным годзе такіх першых класаў ужо дзевяць, і займаецца ў іх 116 вучняў /у г.г. Гродна, Навагрудку, Ваўкавыску, Воранаўскім і Гродзенскім раёнах/. Выкладаюць тут 11 настаўнікаў, якія прыехалі з суседняй Рэспублікі Польшча, згодна з падпісаным пагадненнем паміж дзвюма краінамі.

Але за аптымістычнымі лічбамі хаваецца нямала праблем. Не сакрэт, што ўвядзенне новага прадмета ў навучальны план выклікае многа цяжкасцей: не было праграм, падручнікаў, метадычных і дыдактычных дапаможнікаў, а самае галоўнае — кваліфікаваных кадраў.

Вырашыць даныя пытанні дапамагло супрацоўніцтва з нашымі суседзямі: Польшчай і Літвой. Усталяванне сувязяў у галіне адукацыі з Польшчай, падпісаныя пагадненні паміж упраўленнем адукацыі Гродзенскага аблвыканкама і куратарыем адукацыі і выхавання Беластоцкага ваяводства, а таксама Гродзенскім абласным інстытутам удасканалення настаўнікаў і ваяводскім метадычным цэнтрам у Беластоку далі нам магчымасць запрасіць на працу настаўнікаў з суседняй дзяржавы. Мы карыстаемся ў нейкай меры іх падручнікамі, пасылаем сваіх педагогаў на курсы павышэння кваліфікацыі ў Беласток, Варшаву, Люблін, абменьваемся вопытам работы. Вялікую дапамогу аказвала і аказвае нам педагагічная бібліятэка ім.Я.Спасоўскага ў Беластоку, якую ўзначальвае прафесар Ян Зенюк. У 1990 г. мы атрымалі адтуль звыш 5000 экземпляраў мастацкай літаратуры, падручнікаў у абмен на беларускія падручнікі і кнігі беларускіх пісьменнікаў.

З другога боку, карысталіся мы і дапамогай Літвы, якая мае даўні вопыт па навучанню і выхаванню дзяцей польскай нацыянальнасці. Па заказу Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь тут надрукавалі 3000 камплектаў падручнікаў сямі найменняў для пачатковай школы.

Але змянілася палітычная сітуацыя, і, прааналізаваўшы гэтыя падручнікі, мы прыйшлі да думкі, што матэрыял іх не адпавядае сучаснасці і нам патрэбны свае, беларускія падручнікі. Дарэчы, яны патроху з'яўляюцца.

Такім чынам, пазітыўныя з'явы ў вывучэнні польскай мовы назіраюцца, бадай, ва ўсіх школьных установах. Сёння няма ніводнага кіраўніка раённых аддзелаў адукацыі, педагагічных калектываў, настаўнікаў, хто быў бы супраць яе выкладання.

Пытанні, звязаныя з гэтым прадметам, разглядаюцца на пасяджэннях калегіі ўпраўлення адукацыі, нарадах з запрашэннем зацікаўленых асоб, супрацоўнікаў Міністэрства адукацыі, Саюза палякаў і інш.

Добрыя адносіны ў супрацоўніцтве скláліся і паміж некаторымі педагагічнымі калектывамі навучальных устаноў Гродзеншчыны і Польшчы, дзякуючы якім настаўнікі могуць паехаць у іншую краіну, абмяняцца вопытам работы, а вучні -- адпачыць ці выступіць з канцэртам мастацкай самадзейнасці, альбо сустрэцца ў спартыўных спаборніцтвах. Такія сувязі маюць сёння 13 сярэдніх школ і 5 ПТВ вобласці.

Здаецца, усё ўжо становіцца на сваё месца. Але зноў паўстае праблема кадраў. Пытання больш цяжкага і складанага для нас сёння, мабыць, нельга і прыдумаць. Усе нашы настаўнікі польскай мовы -- гэта настаўнікі пачатковых класаў, якія ведаюць польскую мову ад сваёй сям'і і вывучалі яе на курсах альбо самастойна. Ведаў, шчыра кажучы, ім не хапае. Павысіць сваю кваліфікацыю яны могуць ці ў абласным інстытуце ўдасканалення настаўнікаў, ці /другі этап/ на практычна-метадычных курсах у Польшчы.

Праўда, едучы ў Польшчу на курсы, настаўнікі павінны заплаціць са сваёй кішэні, ды яшчэ доларамі, за праезд па чыгунцы. І вымушаны цягнуць з сабой торбы з "лахманамі", прабачце за такое слова, каб там гэта прадаць і пражыць. Вырашыць пытанне аб "камандзіровачных" на ўзроўні Міністэрства адукацыі ніхто не бярэцца. Спадзяёмся, што хутка ў нас з'явяцца і свае спецыялісты, падрыхтоўка якіх пачалася чатыры гады таму. Рыхтуе да выпуску дзве групы студэнтаў па 25 чалавек па спецыяльнасці "беларуская мова і літаратура, польская мова і літаратура" і "руская мова і літаратура, польская мова і літаратура" Гродзенскі ўніверсітэт.

Правам выкладання польскай мовы будзе валодаць частка выпускнікоў Ваўкавыскага і Гродзенскага педвучылішчаў.

Трэба спыніць сваю ўвагу і на супрацоўніцтве з Саюзам палякаў на Беларусі. Многія пытанні вырашаем мы разам, дапамагаючы адзін другому. Не бяруся аналізаваць дзейнасць гэтай грамадскай арганізацыі, ды гэта і без патрэбы, але ёсць над чым задумацца, калі аддзелы адукацыі стараюцца стварыць неабходныя ўмовы для вывучэння польскай мовы, а гэтую добрую справу некаторыя з паважаных кіраўнікоў Саюза палякаў хочуць вырашыць падчас гвалтоўна, у адзін момант. Так здарылася і ў гэтым навучальным годзе, калі ўпраўленне адукацыі было пастаўлена перад фактам адкрыцця польскіх класаў толькі ў канцы жніўня, бо не было заяў ад бацькоў у школах. Не заўсёды самі бацькі вырашаюць лёс сваіх дзяцей -- настойлівая агітацыя праводзіцца тут святарамі касцёлаў.

Хвалюе нас і тое, што асобныя дзеці не зусім здольныя вучыцца на польскай мове. На думку настаўнікаў з Польшчы, і падручнікі польскія для нашых дзяцей занадта цяжкія, і не ўсе бацькі могуць дапамагчы ім у вучобе, бо самі не валодаюць польскай мовай. Аднаго жадання яшчэ мала. Прапанавалі мы ў свой час адкрыць у Гродна школу з паглыбленым вывучэннем польскай мовы, але адхілілі гэтую прапанову ў Саюзе палякаў. Цяпер саюз дабіваецца стварэння канцэпцыі польскай школы. Але ці патрэбна яна, калі ёсць канцэпцыя нацыянальнай школы, дзе вызначаны ў роўнай меры напрамкі развіцця здольнасцей усіх нацыянальных супольнасцей?

Думаю, пагодзяцца са мною чытачы, што спешка ў пытаннях адукацыі можа нанесці шкоду большую, чым у іншых сферах палітыкі, паколькі ў адукацыі поспехі і няўдачы выяўляюцца значна пазней. Таму адукацыйная палітыка не можа быць палігонам для кароткачасовых эксперыментаў.

***Марыя МАЙСЮКЕВІЧ,***
***загадчыца кабінета польскай і літоўскай моў Гродзенскага абласнога інстытута ўдасканалення настаўнікаў***

*Адукацыя*

# Родная -- значыць розная?

...Каторы дзень туляюся па рэдакцыі і чапляюся да ўсіх, хто піша па-беларуску: "Як правільна — "тыпавыя" ці "тыповыя"?" На мяне глядзяць з непаразуменнем: прыдурваюся? А нехта з маладых, ганарыстых, нядаўна скончыўшых універсітэт, з'едліва дадае: з такім "глабальным" пытаннем не да слоўніка — да акадэмікаў трэба звяртацца.

Між тым пытанне, без іроніі, сапраўды глабальнае. Бо туляюся я па рэдакцыі не з пустымі рукамі, а з афіцыйнай паперай. Дакладней -- з загадам Міністэрства адукацыі, дзе чорным па-беламу надрукавана: "Тыпавыя правілы прыёму ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Рэспублікі Беларусь на 1993 г.". Памылка ў першым слове? Яшчэ год назад я /як і многія/ адказала б: "Так". І ўпікнула работнікаў міністэрства за непісьменнасць.

Сёння... А сёння, шчыра кажучы, ніхто вам не адкажа, што значыць быць пісьменным у роднай мове. Ці ўвогуле быць яе добрым знаўцам. Не верыце? А вы пачытайце ды параўнайце, напрыклад, старонкі цалкам беларускамоўных газет "Свабода" і "Звязда", "Пагоня" з Гародні, дзіцячых часопісаў "Вясёлка" і "Бярозка"... Міжволі ўсклікнеце па-расейску: "Ба! Мы с вами говорим на разных языках". Адны выкарыстоўваюць мяккі знак па-ранейшаму, другія значна пашырылі яго ўжыванне, а трэція, такое ўражанне, пхаюць безгалосную літару куды можна. Адны стаяць за цвёрдае "а", другія "якаюць" — "клясы", "парлямэнт". Адны...

Дальбог, скажа іншы чытач, аб чым тут разважаць? Ідзе заканамерны працэс адраджэння, ачышчэння беларускай мовы, вяртання да вытокаў, усё калі-небудзь паўстане на свае месцы. Ага — у чытача, пэўна, дзіцятка ці яшчэ толькі пойдзе ў школу, ці даўно яе скончыла.

А што рабіць сённяшнім абітурыентам і выкладчыкам? Уявіце дастаткова верагодную сітуацыю, калі ў экзаменацыйнай дыктоўцы ці сачыненні раптам трапіцца "рашэньне" ці "філялогія", "гэнэрал", "да берэгоў" ці "Вітэбск"... Ці хапаць выкладчыку чырвоны аловак? Дык першыя тры словы да "бальшавіцкай" рэформы 33-га года менавіта так пісаліся. Апошнія два я, напрыклад, знайшла ў Вацлава Ластоўскага -- адукаванага ж чалавека! Што, на экзамене студэнту і дацэнту за грудкі брацца, даказваючы сваю пісьменнасць ці патрыятызм?

Можа, я і перабольшваю. Але ўзнікае адно далікатнае пытанне. Калі ў краіне кожны піша, друкуе і перакладае, як хоча, -- дык ці ёсць у гэтай краіне дзяржаўная мова? Ніхто не забараняе вучоным /і палітыкам/ спрачацца вакол моўных пытанняў, выказваць розныя пункты гледжання. Але пакуль яны не зведзены ў дзяржаўныя патрабаванні /да вымаўлення, арфаграфіі, сінтаксісу, лексікі/ -- не трэба пераносіць супярэчнасці ў адну галаву канкрэтнага грамадзяніна.

Па-першае, яна і так вельмі задурана нашым цяжкім часам. Па-другое, ёсць небяспека значна паменшыць колькасць "ціхіх" прыхільнікаў вяртання мовы. Тых, хто не бадзяецца па мітынгах, вывучыўшы два словы -- "Ганьба!" і "Далоў!", а садзіцца за падручнікі, слоўнікі, беларускія кнігі. Дарэчы, што і як ім вучыць?

Па-трэцяе, у такіх абставінах беларуская мова, на вялікі жаль, становіцца неахайнай, і грамадзяне да яе адносяцца таксама неахайна і абыякава. "Тыпавыя правілы" -- гэта толькі адзін маленькі прыклад. А вось іншыя. "Татальная сочка" — чытаю на вялізнай афішы кінатэатра "Кастрычнік" пераклад стужкі "Тотальная слежка". МП "Якосць" -- на камерцыйнай краме. "Пабочным ўваход /менавіта так, праз "ў"!/ забаронены" -- на шыльдачках у Мінскім гарадскім упраўленні ўнутраных спраў. Нейкая моўная анархія!

Каб яе не было, мне здаецца, трэба тэрмінова абвясціць "мараторый" на моўную самадзейнасць. Праўда, не ведаю, хто гэта зробіць. Міністэрства адукацыі? Яно, можна сказаць, піянер у выкананні закона аб мовах. Дзяржаўная мова пануе на калегіях і рабочых нарадах, у дакументах і справах, нават па любым тэлефоне адказваюць: "Слухаю!" І міністр быццам усё жыццё на матчынай размаўляў... Але ж наконт разнамоўя не толькі ў часопісах і газетах, а ў дзіцячых садках, школах — быццам мову адняло.

Камісія Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны? Дык яе намеснік, напрыклад, уваходзіць у рэдакцыйную калегію часопіса "Бярозка" з "дарэформавай" мовай...

Ну а пакуль усе маўчаць, я раскажу маленькую гісторыю. Увосень сын маёй знаёмай пайшоў у першы клас беларускамоўнай школы /па шчыраму жаданню бацькоў/. Вывучыўся пісаць і пачаў, дзе трэба і не трэба, пакідаць запіскі. Такія, напрыклад: "Мама! Я пайшол ув магазін".

Спачатку мая знаёмая хапалася за галаву і сэрца. Цяпер не хапаецца. Разважае са спакойным гумарам: "Можа, ён будзе пісьменнейшы за нас? Мы ж з табой вось пісалі-пісалі сшыткі, здавалі экзамены, а ў выніку -- невукі?"

Што тут адкажаш...

***Святлана ГЕРАСІМАВА***

*Набалелае*

# Новыя вытокі старых традыцый

Пытанне не з другасных: якую мову ахоўвае дзеючы закон? Адказ адназначны -- літаратурную. Пра дыялекты, мясцовыя гаворкі размовы ў ім не ідзе. І, відавочна, не імі будуць авалодваць маленькія беларусы ў дзіцячых садках, а выключна літаратурнай мовай. А што ж з мясцовымі формамі, з іх шматвяковай традыцыяй? Лічыць іх "сапсаванай", "няправільнай" мовай?

Але ж тады хопіць аднаго пакалення, каб мова нашага народа стала мёртвай. Справа ў тым, што жыць яна можа толькі пры ўмове першачарговага засваення яе носьбітамі моўных традыцый нефармальнага асяроддзя. Дык вось, менавіта гэтыя традыцыі патрабуюць сёння падтрымкі закона. Захаваць іх -- значыць захаваць жывыя вытокі мовы, зберагчы іх для будучых пакаленняў.

***Эрнст САРЫЧАЎ***

Мінск






# Тры дні ў чэрвені

*(Заканчэнне. Пачатак на с.1)*

Сапраўднай сенсацыяй стаў юны спявак з Віцебска Ягор Чуб, якому ад імя газеты "Рэспубліка" быў уручаны спецыяльны прыз "Самаму маладому дыпламанту -- ад самай маладой рэспубліканскай газеты".

Позняй ноччу, калі завершан быў вячэрні канцэрт і на эстрадзе спевакоў змянілі джазмены, канцэрт якіх працягнуўся да раніцы, мы запыталі аб уражаннях тых, дзеля каго наладжвалася свята.

**Іна СІНКЕВІЧ, інжынер:** Вялікае дзякуй за тое, што фестываль праводзіцца менавіта ў Маладзечне. Таму што ў Мінску, сярод іншых культурных падзей ён бы згубіўся.

Цяжка прыгадаць прозвішча зоркі беларускай эстрады, якой бы не было тут, у Маладзечне. Але прыхільнікі музыкі маглі пазнаёміцца з яшчэ зусім невядомымі выканаўцамі. І, ведаеце, па пануючай сярод паклоннікаў думцы, многія з іх здольныя зрабіцца сапраўднымі зоркамі.

Шчырую падзяку хочацца выказаць кіраўніцтву горада, якое арганізавала гэта цудоўнае свята. Будзем спадзявацца, што фестываль -- гэта толькі асобная падзея ў шэрагу іншых падзей, якія здольныя пераўтварыць жыццё ў такім месцы, як Маладзечна. І, на маю думку, усё залежыць ад людзей, якія тут жывуць, у тым ліку і прадпрымальнікаў, якія дапамаглі ў падрыхтоўцы фестывалю. Не сакрэт, што апошнія і адміністрацыя Маладзечна працуюць у цесным супольніцтве. І гэта, на маю думку, пойдзе толькі на карысць і людзям, і мастацтву.

## ДЫК ХТО Ж ПАЕХАЎ У "ЖЫГУЛЯХ"?
### /Дзень другі/

Безумоўна, цэнтральнай падзеяй другога дня фестывалю стаў заключны тур конкурсу маладых выканаўцаў. У першым туры ўдзельнічала 18 канкурсантаў, выбраных з больш як 150 прэтэндэнтаў. У другім -- 9. Позна ўвечы стала вядома -- хто ж паедзе з Маладзечна на ўласных "Жыгулях" дзевятай мадэлі блакітнага колеру. Чыё імя будзе выгравіравана на пялёстках Папараць-кветкі, эмблемы і пераходнага прыза фестывалю.

Гран-пры журы прысудзіла Алене Саўленайтэ, салістцы Дзяржаўнага канцэртнага аркестра,

Анжэліка Ютт атрымала І прэмію,

Марыя Зіміна і Юлія Урманава -- ІІ прэмію,

Алена Дзіва, Андрэй Дэбыш, Алена Ларушына -- ІІІ прэмію,

Іна Галімава, Аксана Пятрова і Ягор Чуб сталі дыпламантамі.

Лепшай песняй фестывалю прызнана песня кампазітара Уладзіміра Будніка "Янка Купала".

Каментарый старшыні журы конкурсу народнага артыста Рэспублікі Беларусь Віктара Вуячыча:

-- Па-першае, я хачу павіншаваць лаўрэатаў і пажадаць ім шчаслівага лёсу ў мастацтве. Ці атрымаюцца з іх брыльянты высокай якасці? Гэта залежыць ад многага: працавітасці, патрабавальнасці да сябе. І, вядома, ад таго, ці здолеем мы ўсе разам "зрабіць зорку". Скажу шчыра: мне як ветэрану беларускай эстрады было вельмі радасна чуць тое, што гучала ў гэтыя дні ў канцэртных і конкурсных праграмах. Я лічу, што мастацкі ўзровень нашага нацыянальнага фестывалю быў не горшым, а ў нечым і лепшым, чым на тых міжнародных конкурсах, удзельнікам якіх мне даводзілася быць.

І галоўнае -- першы блін не выйшаў камяком. Таму, што ў нас ёсць багаты кампазітарскі патэнцыял, цікавыя выканаўцы і энтузіязм. Будзем чакаць і рыхтавацца да наступнага фестывалю, і хацелася б пажадаць, каб яго геаграфія пашыралася і каб з самых глыбінь нашай песеннай Беларусі на эстрадным небасхіле заззялі яркія зоркі.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА
### /Дзень трэці/

Перад заключным урачыстым канцэртам, на якім былі ўручаны прызы і дыпломы, у рамках фестывалю адбылася канферэнцыя, якую арганізаваў Беларускі інстытут праблем культуры. Мэтай яе было абмеркаваць сучасны стан нацыянальнай беларускай песні, яе праблемы, яе будучае.

Сабраліся кампазітары, выканаўцы, тэарэтыкі, журналісты. Агульны тон абмеркавання: безумоўна, зроблена важная, карысная справа, прарыў у новую якасць.

А праблемы? Ці ж магчыма без іх, калі шмат гадоў нацыянальная песня, асабліва эстрадная, была ў загоне, у ценю ці ўсходняга, ці заходняга брата. Праводзіліся фестывалі польскай песні, "Славянскі базар", а вось беларускай -- упершыню.

Сёлетняе свята названа фестывалем песні і паэзіі. На жаль, паэзія, якая складае аснову песні, прадстаўлена была больш бляклая, чым музыка. Паэтаў, якія супрацоўнічаюць з кампазітарамі, вельмі мала, нярэдка бяруцца недасканалыя напаўаматарскія вершы, што зніжае якасць твора. Трэба больш строга падыходзіць да выбару песеннага матэрыялу. Пагражае небяспека з'яўлення цэлай плыні "рэстараннай цыганшчыны", напаўпрафесійных, безгустоўных падробак. Востра стаіць праблема падрыхтоўкі кадраў. Сёння беларускія навучальныя ўстановы або зусім не рыхтуюць выканаўцаў для эстрады, або якасць падрыхтоўкі ніяк не адпавядае сучасным патрабаванням. Ёсць вялікая патрэба ў навуковым цэнтры, які займаўся б праблемамі эстрады.

Развіваючыся з фестывалем, Маладзечна чакае новай сустрэчы. Ужо з другім рэспубліканскім фестывалем беларускай песні і паэзіі. Гэта свята душы патрэбна ўсім нам.

*Тамара АБАКУМОЎСКАЯ,*
*Наста КАЗЛОВА*
*Фота Аляксандра КУШНЕРА*













## Іван НОВІКАЎ — ЛІТАРАТУРНА-ГІСТАРЫЧНЫ ЭЦЮД




1

На ратушнай вежы бомкнуў звон. Бомкнуў трывожна, заклікальна, з болем. Быццам немы крык вырваўся з грудзей. Густы гук хваляй пракаціўся над горадам. Цераз нейкі момант яму адазваліся званы гарадскіх храмаў: басавітыя, гарластыя і меладычныя, малінавыя. Бу-у-ум! Дзынь-дзынь-дзынь! Бу-у-ум! Дзынь-дзынь-дзынь... Трывога! Трывога! Усе спяшайцеся да ратушы! -- заклікалі званы.

Сагрэтыя ў пасцелях гараджане даглядалі досвіткавыя, нядзельныя сны: хто салодкія, хто балючыя, хто трывожныя, хто галодныя. У кожнага свой сон, як і свая мара. А ўдар біла ратушнага звана адзін на ўсіх: збірайцеся, спяшайцеся на ратушную плошчу, са зброяй! Гэты перазвон ведалі ўсе, бо не раз даводзілася паднімацца па трывозе -- такі быў час, ішоў тысяча шэсцьсот дваццаць трэці год. Наступіла дванаццатага лістапада, нядзеля. А ў нядзелю ўсім хочацца паспаць, панежыцца, папесціцца ў пасцелі, хочацца дагледзець сны не толькі прыемныя, а і галодныя, у якіх, праўда, ніколі не насыцішся, затое паспытаеш казачнага смаку, якога на яве не паспытаеш.

Каму закарцела падняць недаспаных гараджан з пасцеляў? Хто абвясціў трывогу?

-- Бо-о-о-ом! Бу-у-ум! О-о-ё-ёй!

Як ні дзіўна, сігнал трывогі падняў зусім не віцебчанін, а прышлы чалавек, палачанін Васіль Яскевіч. Можна сказаць, амаль выпадковы ў тых абставінах. Але гэта як глядзець. Можа,і не выпадковы. Можа,так і павінна было стацца. Ва ўсякім разе,так сталася.

Васіля Яскевіча, славутага ганчара і мастака, добра ведаў увесь Полацк. Ды не толькі Полацк -- уся Полацкая зямля. Нават за межамі яе. Васіль Яскевіч быў майстрам каляровай кафлі. Яго вырабы ўпрыгожвалі палацы ваяводаў, мітрапалітаў, баяраў. Яго майстэрству зайздросцілі многія ганчары, якія ўмелі вырабляць толькі збаны ды гладышы. У руках Васіля фарбы ажывалі і жылі зіхатлівым жыццём, выклікаючы ў людзей светлыя пачуцці, а ў храмах яго вырабы -- абразы на кафлі -- нібы свяціліся самастойным святлом, славячы Бога і яго сына Ісуса Хрыста, ці пагрозліва напаміналі грэшнікам пра тагасветныя пакуты.

У Віцебску Васіль апынуўся не выпадкова. На тое была вельмі важная прычына. Каб яна стала зусім зразумелай, трэба азірнуцца на колькі часу назад.

Васіль трымаўся праваслаўнай веры, як яго бацькі, дзяды, продкі. Ён не быў фанатыкам, веру ўспрымаў з роздумам: любіў паразважаць пра сэнс жыцця: для чаго жыве чалавек, якое яго прызначэнне ў гэтым свеце? Чаму адведзен такі кароткі тэрмін для жыцця: не паспееў агледзецца, набрацца вопыту, як наступае старасць з хваробамі і немаччу? Хіба так справядліва? Чаму нараджаецца і памірае ў пакутах, навошта?

Шмат такіх пытанняў узнікала ў Васіля, калі чытаў Біблію. Яе даў Васілю прыходскі свяшчэннік айцец Нікадым у аплату іконы з кафлі, зробленай Васілём. Ікона ўпрыгожыла алтар. А Біблія тая была выдадзена земляком і цёзкам Васілём Цяпінскім, і ганчар Яскевіч асабліва даражыў ёю.

2

Сяліба Яскевічаў размясцілася на пагорку, з якога добра відаць і Верхні замак, і рака Дзвіна ў далечыні, і рэчка Палата, якая віхляе нясмела, нібы падкрадаецца да Дзвіны, каб зліцца з ёю.

Дом іх збудаваны з тоўстых хваёвых бярвенняў, пастаўлены навек. Такі ж свіран, дыхтоўныя хлявы. Крыху воддаль -- ганчарная майстэрня -- гонар сям'і Яскевічаў і іх карміцелька. Яна стаіць пад аховай дуба, у якога свая гісторыя. Калі нарадзіўся Васіль, бацька на радасцях пасадзіў жолуд -- хай расце вечна на славу Васілёву. Дуб падняўся высока, раскінуўшы шырокую крону. Каб цень магутнага дрэва не падаў на пасевы, бацька колькі разоў зразаў ніжнія галіны. Дуб супраціўляўся, даказваў свае правы: выкідаў усё новыя і новыя галіны, але чалавек аказаўся мацнейшым, дуб быццам зразумеў гэта і імкліва падаўся ўверх, каб чалавек не дастаў, набіраў сілы магутным ствалом.

Часам, стаміўшыся, Васіль спыняў працу, браў Біблію і садзіўся чытаць пад дубам. Перачытваў яе, можа, сто разоў, ведаў шмат чаго напамяць, але кніга магнітам прыцягвала да сябе, нібы казка наводзіла на роздум.

Каб больш уяўляць, што за чалавек Васіль Яскевіч, можна было б зазірнуць у яго майстэрню. Цікавага там няма мала, асабліва, калі ганчар вядзьмарыць над кафляй, ці выrабляе посуд. Але падрабязнасці занялі б шмат часу. Звернем увагу толькі на тое, як ён абыходзіцца з глінай. Для яго яна жывая, асабліва пасля стараннай і нялёгкай апрацоўкі. Прычым, ён сцвярджае, што ў кожнай гліны, у кожнага яе радовішча свае асаблівасці, сваё жыццё. Васіль бярэ кавалачак чырвонай ці шэрай, ці белай, ці чорнай, ці сіняй гліны, памне, пакруціць у пальцах, зробіць жгуток, пацягне, прыглядаючыся, як яна выцягваецца, панюхае, нават паспрабуе на зуб і толькі тады рашае, на што яна здатна і якіх дабавак патрабуе для пэўнай пасудзіны ці кафлі. Хоць доўгія тонкія пальцы яго агрубелі, скура на іх стала цвёрдая, але на дзіва ўтрымала дзіцячую далікатнасць успрымання ўсяго, да чаго датыкалася. З заплюшчанымі вачамі Васіль мог сказаць, якую гліну яму далі ў рукі.

Вядома, як і ва ўсякага вялікага майстра ў яго былі свае сакрэты, пра якія ён ні з кім не гаварыў, таму і мы не будзем дамагацца выявіць іх, хай гэтым займаюцца ганчары ды археолагі. Нас цікавіць іншае -- лёс Васіля.

У той час яму было пяцьдзесят пяць гадоў. Самым прыкметным у ім былі вочы. Шэрыя, вялікія, ласкавыя да ўсіх. Зірнеш у такія вочы -- цёпла робіцца на душы. Дабрата і спагада заўсёды свяціліся ў іх.

Круглую бародку сваю з рыжаватымі вусамі Васіль падстрыгаў сам. Доўгая барада замінала б яму ў рабоце, таму і выбраў такую, пакарочаную. Сівізна абсыпала яе, асабліва на скронях.

Постаць у Васіля крыху сутулая. Ды і не дзіва -- работа такая, увесь час даводзіцца гарбець над ганчарным кругам.і кафельнымі формамі.

Набліжаўся вечар. Сінія цені непрыкметна наплывалі ў майстэрню. "Трэба пратапіць горн", -- падумаў Васіль. У яго было прыгатавана шмат посуду для абпальвання. Неабходна выгнаць вільгаць з горна, зрабіць гэта нанач, каб заўтра раніцай выкласці

3

посуд у абпальную камеру.

Думкі абарваў рып дзвярэй. У майстэрню ўваліліся гуртам трое хлапчукоў і закрычалі наперабой:

-- Дзядзька Васіль! Дзядзька Васіль! Хутчэй на могільнік! Там твайго тату бадзяжныя сабакі грызуць!

Хлапчуковы лямант уразіў ганчара:

-- Вы што, звар'яцелі? Мой жа тата нядаўна пахаваны...

-- Не, мы праўду кажам! -- крычалі хлапчукі. -- Нехта адкапаў яго з магілкі і сабакам кінуў. Нам вартаўнік сказаў, каб табе сказалі...

Васіль вушам сваім не верыў. Пра такое кашчунства ён ніколі не чуў і не чытаў. Толькі вар'ят мог дазволіць сабе гэтакае. Ён стаяў у рабочай вопратцы, у фартуху, з выпацканымі глінай рукамі і разгублена, недаўменна глядзеў на хлапчукоў.

-- Бяжы, а то з'ядуць! -- як з-пад зямлі данёсся да яго хлапечы крык.

І тады нешта маланкава перавярнулася ў яго душы. Ён схапіў сякеру, якая ляжала пад нагамі, і кінуўся на могільнік, на ўскрай прадмесця. Ён быў страшны ў сваім узрушэнні: шырока расплюшчаныя вочы, узлахмачаныя галава і барада, сякера ў руках...

Могільнік, зарослы кустамі бэзу і язміну, здаўся асабліва пахмурным. У надвячорку і птушкі маўчалі, хоць стаяў яшчэ ліпень, і ім належала шчабятаць. Не гледзячы на цяжкія ўдары не маладога ўжо сэрца, на шум у вушах Васіль бег, ловячы адкрытым ротам нагрэтае за дзень паветра. Сякера пагрозліва блішчэла ў ягоных руках.

Здаля ўбачыў на алеі каля татавай магілы жывы мітуслівы клубок, які варушыўся, мяняў абрысы. Не ўглядаючыся, здагадваўся, што там. Некалькі сабак збіліся клубком, за імі не разгледзець было, што пад імі. Калі падбег бліжэй, то ўбачыў, што адзічэлыя бадзяжныя сабакі грызуць труп таты.

На ярасны крык Васіля двое сабак ашчэрыліся, загырчалі. Ён сакануў сякерай аднаго, другога, пырснула кроў, і двое другіх, таксама шчэрачыся, падаліся задам, задам, крута павярнулі і кінуліся наўцёкі. Сабачай крывёю заліло абгрызенае татава цела.

Усё адбывалася як у жудасным сне. Абвялы Васіль апусціўся на калені, схіліў галаву:

-- Даруй, тата, даруй, што не ўбярог, не ўгледзеў...

Буйныя скупыя мужчынскія слёзы капалі на труп. Абгрызены твар бацькі не пазнаць было, ногі і рукі таксама абгрызены. Толькі па вопратцы можна было здагадацца, каму выпала такая знявага пасля смерці.

Пастаяўшы мінуту на каленях, Васіль з цяжкасцю падняўся, азірнуўся. Нехта паскудна раскапаў магілу, пустая труна асталася адкрытай. Васіль нахіліўся, узяў бацьку пад плечы, пацягнуў у магілу. Апусціўся, як мог акуратней паклаў у труну, закрыў крышку. Закапаць не было чым. Пастаяў, падумаў, успомніў: у вартоўні павінна быць рыдлёўка. Павольна пайшоў туды.

Вечар навісаў усё гусцей. У такі час акрамя вартаўніка, чалавека, які прывык да свайго занятку, на могільніку нікога не бывае. І Васіль не астаўся б тут ні хвіліны, калі б не такая жудасць звалілася на яго галаву. Ён зайшоў у пустую вартоўню. Рыдлёўка стаяла каля дзвярэй, быццам спецыяльна для яго падрыхтаваная. На ёй яшчэ трымаўся пясок. Узяў яе, вярнуўся да магілы, закапаў.

Напружана думаў: хто зрабіў злачынства? Каму і чаму трэба было непакоіць нябожчыка? Хто рашыўся на раней ніколі не бачаны грэх? Каму не боязна перад Богам і людзьмі?

Падраўняў магілу, паляскаў рыдлёўкай па баках і зверху, падняў сякеру і паціху вярнуўся ў вартоўню. Паставіў рыдлёўку на месца і павярнуўся, каб выйсці, як нос у нос сутыкнуўся з вартаўніком. Той убачыў у руках Васіля акрываўленую сякеру і са страхам шмякнуўся на калені:

-- Даруй мне, Васіль, не забівай! -- малітоўна склаў ён рукі перад грудзьмі. -- Клянуся Усявышнім, што не я. Гэта яны, вылюдкі ўніяты...

А, уніяты! Тады ўсё зразумела. Толькі яны здольны на падобныя злачынствы. Васіль чуў пагрозы архібіскупа Полацкага і ўладыкі Віцебскага і Мсціслаўскага Іясафата Кунцэвіча. Праваслаўныя празвалі яго душахватам. Страшны, бязлітасны фанатык. Такі пойдзе на любое злачынства, каб толькі выслужыцца перад Рымам. Лічыць сябе сяцей папы рымскага. У імя свайго Бога гатоў задушыць колькі хочаш людзей другой веры. Пра яго зладзействы Васіль наслухаўся досыць. Узяўшы Полацкае біскупства, з першага дня, з 9 студзеня тысяча шэсцьсот васемнаццатага года, Кунцэвіч выкараняе праваслаўе з Полацка, хоць і безвынікова. Выкараняе ўсімі сродкамі, і такімі, як на гэты раз -- здзекамі над памершымі.

-- Прыйшлі трое дужых, як быкі, -- стоячы на каленях, спавядаўся перад Васілём вартаўнік. -- Загадалі: бяры рыдлёўку і капай! Я спрабаваў пярэчыць, дык яны сціснулі глотку, думаў, што самому капцы. Пачалі таўчы з усіх бакоў. Б'юць і прыгаворваюць: "Гэта ад нас! Гэта ад Іясафата!" Бачу: усё, канец мне настаў. Вымушана пагадзіўся. Як адкапаў ды выцягнуў твайго тату -- адпусцілі, пайшлі шукаць бадзяжных сабак. А я выбег з могільніка, убачыў хлопчыкаў, што гулялі паблізу, сказаў бегчы да цябе, паведаміць. Даруй!..

-- Уставай, дурань! -- мірна сказаў Васіль. -- Што, я такі, як тыя?

Амярцвелы ішоў дамоў, ледзьве цягнуў ногі. Вялікі цяжар прыціснуў цела і душу. Кароткая летняя ноч насоўвалася на Полацк, доўгая чорная ноч ляжала на сэрцах палачан. За апошнія месяцы Кунцэвіч гвалтам забраў у палачан-праваслаўных тры храмы і папярэдзіў, што забярэ астатнія. Хочаш, ці не -- прымай уніяцтва! -- такі быў ягоны загад. Праваслаўныя ўпарта адмаўляліся, не хадзілі на ўніяцкія службы, Кунцэвічу даводзілася самому і яго служкам маліцца ў пустых царквах. Але ён так жа ўпарта маліўся і яшчэ больш упарта перарабляў праваслаўныя храмы на ўніяцкія.

Праваслаўныя маглі б лёгка справіцца з ім, але ж у яго за спіной былі кароль Рэчы Паспалітай Зігмунд Трэці і канцлер Вялікага Княства Літоўскага Леў Сапега. З каралём не паспрачаешся, і праваслаўныя ўступалі адзін храм за другім.

Першымі пачалі здавацца беларускія

4

вяльможы. Кароль і яго акружэнне абяцалі перабежчыкам высокія пасады, прывілеі, маёнткі. За гэта вяльможы лічылі не грэшным перадаць свае душы каталіцтву. А за імі паследавала шляхта. Толькі людзі паспалітыя асталіся адданымі сваёй веры. Яны не ўяўлялі, як можна здрадзіць сваёй веры і Айчыне. Большага граху не ведалі. У іх забралі храмы -- сталі маліцца ў дамах. Былі ўпэўнены: шчырае слова дойдзе да Бога, дзе б яно ні было сказана. Забралі іх абразы -- здабывалі новыя. Вось тут і спатрэбіўся талент Васіля. Ды і абразы яго моцныя, на кафлі, не сапсуюцца, калі пераносіць з дому ў дом. Васіль рабіў іх з душой, так жа маліліся на іх праваслаўныя. За гэта і пакараў яго Кунцэвіч -- ён ведаў пра работу Васіля.

З могільніка ганчар вярнуўся ў майстэрню. Дамоў не пайшоў, не хацеў непакоіць жонку Саклету. Яна можа перапалохацца, калі пачуе, што здарылася. Дома ведалі, што Васіль можа затрымацца на ноч. Так бывала часта, таго патрабавала работа: абпальванне, абварванне, глазураванне. Таму ніхто не турбаваўся, што ён не прыйшоў спаць.

А калі б і пайшоў, то ўсё роўна не заснуў бы. Як жа заснуць пасля перажытага! Абгрызенае сабакамі цела бацькі стаяла перад вачамі. Сядзеў на ўслончыку перад раскрытай пашчай горна, глядзеў на полымя, а ў ім мітусіўся пакутны вобраз таты. Усю ноч. Усю ноч бяссонную, чорную, прабіваемую толькі трапяткім, як паранеая чалавечая душа, полымем горна.

Каму паскардзішся і на каго? Каталіцтва моцна трымае ўладу ў Рэчы Паспалітай. Цераз уніятаў наступае на праваслаўе. Калі ўжо і магнаты-беларусы пачалі пішчаць пад іх рукой, то чаго чакаць простаму чалавеку? Цяжкі крыж усклаў Бог на праваслаўных, -- думаў Васіль. -- Аднаму цяжка выстаяць. Гуртам трэба, гуртам. Добра, што брацтвы ствараюцца ў прыходах. Багацейшыя братчыкі пускаюць прыходскага папа Нікадыма спраўляць царкоўную службу ў сваіх дамах. Гэта ўжо добра. І Васіль пускае. Вось і заўтра яго чарга прымаць прыхажан. Васіль разважае так: Бог не толькі ў царкве, ён, як сказана ў Бібліі, усюды, а галоўнае -- у душы чалавека. Адтуль яго Кунцэвічу не выгнаць.

(Працяг будзе)









## К сведению авиапассажиров!

С 8 июня самолетом ТУ-134 по 2, 5 дням вводится рейс АГ-8941/АГ-8942 Архангельск--Минск--Архангельск, вылет в 18.45.

С 6 июня по 15 июня самолетом Ту-154 по 1 дням вводится рейс Р3-7225/Р3-7226 Ереван--Минск--Ереван, отправление в 17.20.

Вылет из аэропорта Минск-2 по местному времени.

*Справки по тел. 0-06.*



Американская благотворительная организация "Ситихоуп Интернэшнл" приглашает начинающих бизнесменов на 2-дневный семинар по вопросам бизнеса, маркетинга и менеджмента "Ты можешь начать и успешно вести свое собственное дело".

Семинар состоится в помещении Информационно-культурного центра, ул.Октябрьская, 5.

11.06.93 с 10.00 до 18.00
12.06.93 с 9.00 до 15.00

Справки по тел.: 27-78-65, 27-89-18, 26-01-09

Билеты продаются в здании ИКЦ



Правление общества "Знание" РБ проводит 6--7 июля 1993 года семинар-учебу "ЭКОНОМИКО-ПРАВОВЫЕ АСПЕКТЫ ПРЕДПРИНИМАТЕЛЬСКОЙ ДЕЯТЕЛЬНОСТИ ГРАЖДАН".
Телефон: 33-42-41